# Браты Кракі

*Легенда*



У наваколлі Слоніма некалі жыў багаты ўдавец Ян Крак. На выхаванне жонка яму пакінула двух малалетніх сыноў. Меў ён шмат дзесяцін добрай зямлі, вялікі светлы дом, шмат скаціны і дробнай хатняй жыўнасці.

Цяжка аднаму ўправіцца з такой вялікай гаспадаркай, таму вымушаны быў Ян Крак наймаць работнікаў. Толькі бяда: ні адзін з парабкаў доўга не вытрымліваў. Ян Крак быў падазроным, скупым і сварлівым. Здаралася, вернуцца людзі з поля, стомленыя пасля цяжкай працы, да гаспадара звернуцца за дзённым заробкам, дык Крак на іх жа з лаянкай накінецца: быццам, добрых коней загналі, зямлю неглыбока аралі, на полі мала працавалі, доўга ляжалі ў цяньку, і вылічыць з дзённага заробку работнікаў добрую частку грошай.

Але горш за ўсё стары Крак крыўдзіў жанчын, якіх наймаў весці хатнюю гаспадарку. Яму ўсё здавалася, быццам абкрадаюць яны яго пацішку. І хутка, акрамя васьмідзесяцігадовай Куліны, ніхто з навакольных вёсак не згаджаўся ісці ў парабчанкі да ўдаўца.

Куліна ж, не гледзячы на вялікі свой узрост, была яшчэ даволі моцнай старой і надрэнна ўпраўлялася са сваімі абавязкамі. Казалі, моцы і здароўя даюць ёй духі, якім быццам бы служыла Куліна з маладосці. У народзе гэтая жанчына лічылася знахаркай і чараўніцай. Але Ян Крак, мабыць, не верыў такім байкам, інакш, пэўна, не рашыўся б пакрыўдзіць старую. А пакрыўдзіў гаспадар парабчанку жорстка. Усё жыццё Куліна збірала грошы ў збанок, на пахаванне. Неяк Ян Крак знайшоў гэты збанок і пакваліўся на чужое дабро. Забраў сабе ўсё да грошыка, на Куліну ж яшчэ і накрычаў:

— Гэта ты, старая, у мяне таемна накрала, інакш адкуль жа ў цябе, парабчанкі, столькі багацця.

Заплакала Куліна, сабрала рэчы свае і пакінула негасцінны дом. Перад адыходам выказала гаспадару:

— Ты злодзей, Ян Крак. Ты абакраў зараз старую адзінокую жанчыну. Але шчасця гэта табе не прынясе. Ты злодзей, дык няхай дзеці твае стануць сапраўднымі разбойнікамі і будуць асуджаны, і пракляты людзьмі.

Пасмяяўся тады ён над пакрыўджанай Кулінай. Але ўспомніў удавец яе словы з незвычайнай трывогай на смяротным ложку. Паклікаў ён тады сыноў ды адкрыў ім усе свае турботы:

— Калі паўгода назад памерла старая Куліна, што служыла калісьці ў нас, таямнічая, незвычайная смерць яе сцвердзіла падазрэнні многіх, што яна вядзьмарка. Праклёны вядзьмарак — страшныя. Няўжо вам, сынам маім, гонару майму, сапраўды суджана разбойнічаць, на крывой сцяжыны сцерагчы свае ахвяры з нажом?

Супакоілі, як маглі, сыны бацьку. Навошта ж ім разбойнічаць, калі ў спадчыну дастаецца такое вялікае багацце ад бацькі?..

Пасля таго, як Ян Крак памёр, пачало збывацца прадказанне Куліны. Падзяліліся браты, і няроўным былі долі гэтыя. Хату, усё начыненне яе, зямлю і жывёлу ўзяў старэйшы брат, Рыгор Крак, а малодшаму, Яўхіму Краку дасталася толькі невялічкая колькасць грошай. Затаіў злосць на Рыгора Яўхім, пайшоў па людзях дзяліцца сваёй крыўдай.

Даведаліся пра клопаты Яўхіма шалапутныя хлопцы, сталыя наведвальнікі карчмы. Неяк абкружылі яны яго са спачуваннямі і добрымі словамі. За яго ж грошы дап'яна напаілі — гэтак, быццам, лягчэй гора перажываць. Паверыў ён, што з ім шчырыя новыя сябры, якія дапамаглі яму ў хуткім часе разарыцца канчаткова. Стаў Яўхім Крак галотай беспрасветнай, заўсёды яго, п'янага і бруднага, можна было бачыць у карчме.

Недаспадобы гэта было старэйшаму брату, які ўсур'ёз заняўся купецкай справай. Наказаў неяк Рыгор Крак людзям сваім прывесці брата. І калі тый выканалі наказ, аб'явіў Яўхіму, што бярэ яго сабе ва ўслужэнне, толькі каб ён не сароміў сям'ю. Але крыўда малодшага брата была такой вялікай, што выказаў ён брату:

— Я рады, што з-за мяне ў цябе падае прыбытак. Служыць да цябе, душагубца, не пайду. Але ўсе свае намаганні прыкладу да таго, каб яшчэ больш нашкодзіць табе. А калі, па бацькавых словах, для нашай сям'і няма нічога больш ганебнага, чым мець сваяка-разбойніка, дык разбойнікам і стану. Ты будзеш гандляваць з купцамі, а я іх у лесе буду сцерагчы і рабаваць. Западозраць цябе, Рыгор Крак, у змове са мною, і пазбавішся ты ўсіх сваіх пакупнікоў. Такая будзе мая помста!

І сапраўды, назбіраў Яўхім Крак вакол сабе ліхіх людзей, якім ужо, як і яму, не было чаго губляць, і павёў іх у лес.

І сталі багатыя госці аб'язджаць за сто вёрст гэтыя мясціны, а сяляне пачалі наракаць на Бога за тое, што дазволіў разбойнікам акаянным сумленных людзей палохаць.

Задумаўся Рыгор Крак: як вярнуць купцоў, як пазбавіцца ад брата-разбойніка? Праехаўся ён па бліжэйшых сёлах, плакаў-наракаў на неразумнага Яўхіма, прасіў даравання за тое, што мае такога брата, заклікаў сялян, якім таксама не давала жыцця шайка разбойнікаў, сабрацца ўсім разам ды вызваліць лясы ад ліхіх людзей.

І пайшлі сяляне ў лясы, выклікаўшы для падтрымкі з горада салдат. Абкружыўшы разбойнае логава, пералавілі ўсіх тых, хто памагаў Яўхіму Краку, акрамя яго самога. Павезлі іх судзіць у Слонім.

Задаволены, вяртаўся дамоў Рыгор Крак. Толькі чакала яго там непрыемная навіна. Не ведаючы, што аблаву на разбойнікаў арганізаваў Рыгор, прыбег да старэйшага брата ратавацца параненый Яўхім.

Але неспагадлівым быў Рыгор Крак. Загадаў ён слугам сваім звязаць Яўхіма і выдаць азлобленым мужыкам. І хаця самасуд ужо ў тыя часы быў забаронены, павесілі Яўхіма Крака мужыкі на бярозе.

Такім чынам Рыгор пазбавіўся ўсіх сваіх клопатаў. Пасля чаго яго справа пайшла так удала, што ў хуткім часе першым багацеем стаў у павеце. Пачаў скупляць навакольныя землі, разараючы і пускаючы па свеце сялян. Купіў і тую вёску, дзе праваліся мужыкі з яго братам. Ён яе назваў у памяць аб падзеі, што дапамагала яму так разбагацець, Малой Кракоткай. А тая вёска, дзе знаходзілася яго сядзіба, стала Вялікай Кракоткай.

Горка жартавалі з гэтай нагоды сяляне: малодшы Крак быў маленькім разбойнікам — яго павесілі, старэйшы Крак — вялікі разбойнік — перад ім шапкі здымаюць.

Гэты факт і зараз успамінаюць старажылы абедзвюх Кракотак, калі іх просяць распавесці пра гісторыю сваіх вёсак.

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

**КНІГА Ў ГАЗЕЦЕ** ***Васіль СУПРУН. «Дзеі над Шчарай» (З гісторыі зямлі Слонімскай)***

**Вяценеўка, Галяны, Ганькі, Гарбачы, Глоўсевічы, Голі, Грыбава, Грынкі, Грынкоўшчына, Гуменікі, Дзеравянчыцы, Дзераўная, Драпава, Едначы, Жыровічы, Забулле, Заверша, Заводны Лес, Загор'е, Загрыцькава, Задвор'е (Васілевіцкага сельсавета), Задвор'е (Паўлаўскага сельсавета), Залессе, Засімовічы, Збочна, Ісаевічы, Кавалі, Какошычы, Камлявічы, Капусты, Кастровічы, Касцяні, Кісялі, Клепачы, Кошылавічы, Крывец, Куцэйкі, Ламашы, Лапухова, Літва, Лыскі, Львоўшчына, Малы Галік, Малыя Шылавічы, Малышэвічы, Масілавічы, Махначы, Міжэвічы, Мізгіры, Мікалаеўшчына, Мілаванне, Мілашэвічы, Мірная (былыя Трыбушкі), Міцькавічы, Мыслава, Мяльканавічы, Навасёлкі (Васілевіцкага сельсавета), Навасёлкі (Дзераўноўскага сельсавета), Навасёлкі (Паўлаўскага сельсавета), Навікі, Нагуевічы, Нараставічы, Ніз, Новыя Орлавічы, Новая Пераволока, Новая Стража, Новыя Дзевяткавічы, Падгорная (былая Блошна), Падлессе, Падмошша, Папкі, Палатніца, Партызанаўка (былыя Пляшкі), Парэчча, Пасінічы, Паўлава (былыя Пузавічы), Паўлавічы, Піронім, Плаўскія, Прадзелкі, Прусоўшчына, Прырэчча (былыя Кабакі), Прыхілы, Пятралевічы, Разанаўшчына, Рахавічы, Рудаўка, Рудня, Русакова, Савічы, Сакалова, Саковічы, Саленікі, Сасноўка, Скоўдзічы, Смаўжы, Старая Пераволока, Старыя Дзявяткавічы, Сурынка, Сценявічы, Сялявічы, Сянькоўшчына, Сяргеевічы, Сяркі, Коласава (былыя Сучкі), Талькаўшчына, Тушавічы, Ферадкі, Хадзявічы, Харашэвічы, Хмяльніца, Цівіншчына, Чамяры, Чапялёва, Шундры, Шыганы, Шышкі, Юхнавічы, Ягнешчычы, Якімавічы, Яруцічы.**

**Населеныя пункты Альбярцін, Лабазоўка і Рышчыцы ўключаны ў склад горада Слоніма, а былыя вёскі Стайкі і Вольку далучылі да Жыровіч. Жыхары невялічкіх населеных пунктаў Гумнішчы, Ярмолаўшчына, Краўцэвічы перасяленыя ў іншыя вёскі.**

**З 1968 да 1971 скасавана (пераселена ці далучана да суседніх вёсак) 40 былых хутароў і дробных паселішчаў. Так у былым Глоўсевіцкім сельсавеце перастаў існаваць хутар Басіны, у Кастровіцкім — Янава і Гальбітова, у Дзераўноўскім — Баяры, у Азгінавіцкім — Чмялявец, у Паўлаўскім — Акольна, Барсукоўшчына, Бор, Верашоўшчына, Вербы, Волька, Выбар, Гарадок, Глінішча, Гуціска, Завепраўка, Залессе, Зарэчка, Кабылка, Косціна гаць, Ліпнікі, Малінаў Груд, Нівішчы, Пад Дубішчамі, Падзадвор'е, Пацяробы, Перадзел, Праваросце, Руда, Селішча, Сервітут, Студзенка, Тартакі, Церахоўшчына, Чудоўскае, у Вялікашылавіцкім сельсавеце — Глінішча, Госціна, Гута і Соміна.**

**Па рэльефу Слонімшчына — узгоркава-нізінны раён. На захадзе ўзгоркі пераходзяць у так званае Слонімскае ўзвышша, на паўночным усходзе — у адгор'і Навагрудскага ўзвышша. Шчара разразае тэрыторыю раёна з паўднёвага ўсходу на паўночны захад, а нізінны поплаў ракі ўтварае адгалінаванне Верхнянёманскай нізіны і на поўдні, ужо за межамі раёна, змыкаецца з Палескай нізінай.**

**Сучасны Слонімскі раён мяжуе на ўсходзе з Баранавіцкім раёнам Брэсцкай вобласці, на поўдні — з Івацэвіцкім і Пружанскім раёнамі гэтай вобласці, на захадзе — з Зэльвенскім, а на поўначы — з Дзятлаўскім раёнамі Гродзенскай вобласці.**

**У мінулым тэрыторыя Слонімшчыны ў большасці была пакрыта багатымі на звяроў і птушак пушчамі (Жыровіцкай, Парэцкай, Ражанскай і інш.), якія дзялілі паміж сабой каралеўскі і вялікакняжацкі двары і багаты род Сапегаў. Цяпер лясамі тут занята каля 28 працэнтаў тэрыторыі. Старыя бары, як асноўнае багацце краю, паступова былі высечаны і вывезены рознымі чужымі ўладамі. Маладыя ж лясныя масівы збяднелі на дзічыну, птушак і іншыя дары прыроды. Зрэдку цяпер тут сустракаецца лось, дзік, казуля і нават лісіца. Прыцішэў і птушыны гоман.**



**Глебы ў раёне больш чым на 70 працэнтаў лёгкія, дзярнова-падзолістыя, часткова забалочаныя, тарфяна-балотныя і алювіяльныя. Паводле механічнага складу пераважаюць супясчаныя глебы. Іх тут каля 59 працэнтаў, суглістых жа каля 25 працэнтаў і каля 16 працэнтаў пясчаных. Сярэдняя тэмпература студзеня — 5,4°С, ліпеня — +17,8°С. Ападкаў за год выпадае каля 592 міліметраў. Вегетацыйны перыяд — 196 сутак. Карысныя выкапні: радовішчы торфу каля вёсак Глоўсевічы (Мох) і Прусоўшчына, невялікае радовішча мелу каля вёскі Савічы, 4 радовішчы цагельнай гліны, 2 вялікія пясчана-жвіравыя радовішчы (распрацоўваюцца каля Азярніцы і Слоніма). На тэрыторыі раёна нямала такога будаўнічага матэрыялу, як бутавы камень.**

**Акрамя галоўнай ракі краю — Шчары, якая да нядаўняга часу была судаходнай і праз канал Агінскага злучалася з Прыпяццю, па тэрыторыі раёна працякаюць рэчкі Іса, Грыўда, Була, Валобрынка, Хітра, Дымарка, Бяроза. Азёры — Бяздоннае, Мох.**

**Насяляюць раён беларусы (каля 76%), рускія, палякі, украінцы, татары і іншыя нацыянальнасці. На адлегласці 10 кіламетраў на поўдзень ад Слоніма знаходзіцца былое мястэчка, а цяпер вёска, Жыровічы са славутай беларускай праваслаўнай святыняй — комплексам храмавых і манастырскіх збудаванняў. На тэрыторыі горада захавалася нямала архітэктурных помнікаў з мінулых часоў. Раён багаты помнікамі археалогіі.**

## Сведкі сівой даўніны

## I

**Рака Шчара з найдаўнейшых часоў з'яўлялася важнай вадзяной магістраллю, якая злучала басейн Нёмана з басейнамі Прыпяці і Дняпра. Берагі яе яшчэ з тых часоў былі абжыты людзьмі. На маляўнічых пясчаных прыгорках і дзюнах тут захавалася нямала слядоў розных археалагічных помнікаў: ад стаянак-селішчаў першабытных насельнікаў краю да паселішчаў і могільнікаў сярэднявечча. Шмат помнікаў старажытнасці раскідана і ўздоўж іншых рэчак і вадаёмаў. Наогул, Слонімшчына — гэта своеасаблівы археалагічны запаведнік. Рознячасовых аб'ектаў археалогіі тут выяўлена значна больш, чым на тэрыторыі суседніх Баранавіцкага, Зэльвенскага і Пружанскага раёнаў разам узятых.**

**Экскурс у раннюю гісторыю гэтага багатага помнікамі краю і пачнём са згаданых сведак сівой даўніны, беражліва захаваных зямлёй да нашых дзён. Тым больш, што пісьмовыя крыніцы аб падзеях у гэтых мясцінах пачынаюць паведамляць даволі позна ды і скупа. Напрыклад, першыя згадкі аб Слоніме ў старажытных рускіх летапісах адносяцца да XIII стагоддзя, калі горад ужо быў сталіцай зямлі Услонімскай. А жыццё ж тут існавала і задоўга да гэтага часу, пра што сведчаць закранутыя намі помнікі. *(Працяг будзе).***

# ТРИ НЕДЕЛИ В ВАРШАВЕ

**Валентин ЧУРИЛО**

**Слоним — Варшава — Слоним**

**Поезд Москва-Берлин прибыл на главный вокзал польской столицы Варшава-Центральная точно в 6 часов 15 минут. На перроне меня встретил представитель польско-чешско-словацкой организации, которая спонсировала мою командировку в Варшаву. Увидев, что у меня две сумки, одну из них взялся поднести. По пути кратко пояснил, что по существующим правилам на транспорте Варшавы, пассажир может бесплатно перевозить в трамвае, автобусе или метро только одну сумку. За остальной багаж необходимо покупать дополнительный билет.**



## Транспорт

С этого момента, собственно, и началось мое знакомство с Варшавой, и в частности – с ее транспортом. Мой новый знакомый, Владимир Бороденко, предусмотрительно купил для меня недельный билет для проезда в городском транспорте, стоимостью 16 злотых (1 доллар США – 3,5зл.).

Позже я познакомился с контролером на транспорте Анджеем Штепаньским. Он рассказывал мне о существующих порядках проезда в трамвае, автобусе и метро. При этом отметил, что на каждой остановке, в каждом транспортном средстве имеется плакат маршрута движения трамвая или автобуса и карта Варшавы. Смотри, читай и выходи там, где считаешь нужным.

Анджей не упустил момента рассказать мне о существующей системе скидок при покупке билетов для проезда в городском транспорте. Наиболее выгодно приобретать годовой проездной билет – он самый дешевый в перерасчете на дни поездок. Например, если билет на один день стоит 1,4 злотых, то на неделю – 16 злотых, на месяц – 50 злотых, на квартал – 142 злотых. За безбилетный проезд или за неправильное компостирование взымается штраф в размере 70 злотых, что примерно составляет 20 долларов США.

Человека, вроде меня, впервые попавшего в Варшаву, поражает несметное количество припаркованных на тротуарах автомобилей. Поляки почему-то отдают предпочтение небольшим автомобилям, вроде "Фиат" или "Фольксваген-Поло". Однажды, представившись стоящему на перекрестке "инспектору руха" (именно так он назвался), я попросил рассказать его, как организована безопасность движения в Польше, и в частности – в Варшаве. Вызвав по радиосвязи своего напарника, поручник Ежи Ковальчик охотно согласился мне про это рассказать. Из его слов я узнал, что в Варшаве вообще запрещено паркóваться на проезжей части улиц, подчеркнул, что это можно делать в любом месте на тротуарах. Исключение составляют места напротив входов в магазины, рестораны, театры и т.д.

Он сообщил, что с начала текущего года на дорогах Польши совершено более 9 тысяч аварий, в результате которых погибло 4054 человека.

—Пан журналист желает видеть аварию? – спросил Ежи Ковальчик и доставил меня на место недавней аварии, где стоял разбитый автомобиль с надписью на двери: "Похоронные услуги".

## Пресса

Книжные магазины и киоски польской столицы буквально завалены многочисленными большими и малыми газетами и журналами на десятках языках мира. Группа журналистов, в состав которой входил я, состояла из представителей редакций независимых газет Беларуси, Украины, Грузии и Киргизстана. Польские коллеги организовали для нас встречи с творческими коллективами некоторых польских газет и радио.

Первой была встреча с редакционной коллегией ежедневной газеты ZYCIE (Жизнь), которая выходит тиражом 250 тысяч экземпляров. Заместитель редактора Анджей Непокульчицкий в течение дня знакомил нас с коллегами по перу и с условиями их работы. Из его рассказа мы узнали, что в 1991 году часть журналистского коллектива газеты ZYCIE WARSZAWY ("Жизнь Варшавы") отделилась и создала на собственные средства новую, независимую газету "Жизнь". Нам только оставалось удивляться и завидовать технической оснащенности газеты. Каждый сотрудник имеет свой персональный компьютер с выходом в Интернет. Газета имеет своих собственных корреспондентов почти во всех странах мира. В настоящее время газета "Жизнь" является акционерным обществом. Заработная плата каждого ее сотрудника зависит от реализации каждого номера издания. Как сообщил нам Анджей Непокульчицкий, в Польше считается очень хорошим показателем, если реализация печатного издания составляет 70%.

Посетили мы и редакцию полугосударствённой газеты RZECZPOSPOLITA, которая также является акционерным обществом. 49% акций принадлежит государству, а 51% владеет норвежская кампания. Заместитель редактора издания Анджей Качиньский пояснил, что присутствие иностранного капитала в деятельности многих польских печатных изданий – обычное дело, поскольку иного пути для их выживания нет. Он также подчеркнул, что ни государство, ни норвежская фирма на содержание материалов газеты не влияют, так как владельцев больше всего интересует прибыль. В коллективе газеты трудятся более 130 журналистов, а ее тираж достигает 300 тысяч. Это была единственная газета, где нам сообщили, что зарплата журналиста составляет в среднем 4 тысячи злотых (что соответствует примерно 1100 долларам США).

## Суд

Мне, как юристу, было интересно побывать и в польском суде. Такую возможность мне тоже предоставили. В назначенный день я встретился с судьей Варшавского воеводского суда пани Иреной Горель. В тот день суд рассматривал уголовное дело об умышленном убийстве гражданина Республики Польша Петра Апелькевича. На скамье подсудимых сидел гражданин Белар, си В., который "из корыстных побуждений по преступному сговору с двумя польскими гражданами совершил разбойное нападение на Петра Апелькевича".

Что сразу бросилось в глаза, так это одежда участников процесса. Сразу видно, кто есть кто. Судьи в мантиях с розовыми аксельбантами, прокуроры – с красными, адвокаты – с зелеными. Подсудимый сидел за спиной у адвоката и имел возможность постоянно общаться между собой. Честно говоря, мне не доставляло особого удовольствия чувствовать за своей спиной дыхание подсудимого-земляка. Какой был вынесен вердикт, я так и не узнал. Процесс был перенесён на следующий день.

## Деньги

Днем на улицах Варшавы не очень многолюдно. Большинство прохожих – это пенсионеры и многочисленные группы иностранных туристов. Но после 17 часов город оживает. Появляется много молодых людей, слышится веселый смех, музыка. В подземных переходах, возле входов в супермаркеты, начинают свои концерты уличные музыканты. Например, возле известного варшавского супермаркета, что на Иерусалимской улице, выступал латино-американский ансамбль. Один из музыкантов с сомбреро в руках ходил по кругу и собирал монеты у зрителей из числа прохожих.

Просить милостыню на улицах Варшавы запрещено. Это можно делать только у входов в костелы. Однажды я был свидетелем, как полицейский заставил покинуть подземный переход пожилую женщину с девочкой, которые с плакатом в руках просили пожертвовать на лечение. А вот зарабатывать себе на хлеб иными способами не запрещается.

В один из вечеров я познакомился с молодым парнем из Гродно по имени Николай (так он мне представился), который у входа в магазин исполнял на трубе классические мелодии. Послушав его виртуозную игру, я спросил у музыканта, хватает ли ему поданных монет на жизнь.

– Даже с лихвой! – ответил парень. В одном из переходов станции метро под аккомпанемент отца-баяниста его дочь Людмила исполняла песни из репертуара российской певицы Надежды Кадышевой. Рядом с ними в футляре из-под баяна лежала приличная горстка монет. С некоторым смущением Людмила сообщила, что несколько лет назад она окончила лидское музыкальное училище.

## Товары

За три недели жизни в Варшаве довелось посетить немало больших и малых магазинов, где купить можно буквально все. Притом по самым разным ценам. Я убедился, что варшавяне обычно делают покупки на неделю и, как правило, в больших супермаркетах, где есть все, начиная от экзотических продуктов до новейшей телерадиоаппаратуры. На огромной автомобильной стоянке для покупателей под стеклянным навесом стоят тележки. Вставляешь в щель замка тележки двухзлотовую монету и въезжаешь с ней в магазин. Это не плата за ее пользование. Сделано это с той целью, чтобы человек, выгрузив в багажник автомобиля покупки, не бросил тележку, где попало. Стоит поставить ее на прежнее место, как срабатывает механизм замка и возвращает вашу монету. Можно, в принципе, оставить тележку в любом месте, но тогда два злотых в награду получит тот, кто поставит тележку на прежнее место.

Примерно через полчаса, рассчитавшись, мы со своим знакомым варшавянином Ежи Сунатором, с полной тележкой продуктов направились на выход. Здесь я узнал самое интересное. Оказывается, покупателя за большое количество товара еще ждет вознаграждение от представителей различных фирм. Например, один из них, увидев в тележке моего знакомого целый контейнер из 10 банок растворимого кофе, поблагодарил за покупку и положил в тележку еще две банки и 4 пакетика такого же кофе.

Рекламный агент кампании, производящей рыбные консервы, обратил внимание на купленные два контейнера по 20 банок консервов из тунца и положил в тележку еще 10 банок другого сорта консервов этой же фирмы.

## Встреча

Перед отъездом в Польшу мне дали адрес польского писателя, автора трех книг по истории Слонима, Тадеуша Сосиньского. Я не упустил возможности посетить земляка. Он гостеприимно меня встретил, усадил за щедрый стол. До 1939 года он жил в деревне Кастровичи, поэтому много меня расспрашивал о людях, которые сейчас там живут. При этом вспоминал людей того времени по фамилиям Бобило и Яговдик.

Пан Тадеуш детально помнит сентябрь 1939 года, когда в наши края пришла Красная Армия. Он поведал, как на глазах всех окрестных жителей его вместе с семьей и другими поляками вели на расстрел в сторону леса за деревней Шишки. По счастливой случайности ему удалось убежать с места расстрела. Повозив меня на своем автомобиле по всей Варшаве, Тадеуш Сосиньский тепло распрощался со мной, подарив районному отделению союза поляков около двух десятков собственных книг по истории Слонима. И еще он попросил меня через "Газету Слонімскую" сообщить, что любой житель деревни Кастровичи, кто помнит его и знает, может написать ему в Варшаву и приехать в гости. Он будет весьма рад такой встрече.

Три недели пролетели незаметно. И вот я снова на вокзале Варшава-Центральная. Спустя 12 часов меня ждал Слоним.

---

**ДЭБЮТ** *вершы Таццяны Тарасік*

# "Буду сонцам свяціць"



**Пачынаючая паэтка Таццяна Тарасік працуе ў дзіцячым садку №11. Яна закончыла Гродзенскае вучылішча мастацтваў.**

**Вершы піша даўно. Вызначаюцца яе радкі шчырым пачуццём, свежасцю фарбаў, а таксама вобразнасцю.**

**Сёння ў Таццяны — дэбют. Няхай ён прынясе ёй удачу!**

***

Бегла мара каляровая сцяжынкай
І спаткала выпадкова павуцінку.
Абкруціла павуцінне мары ножанькі,
Тут і збілася яна з сваёй дарожанькі...
А я клічу, гукаю, чакаю яе.

***

Буду сонцам свяціць у начы,
Калі ты адыдзеш ў далячынь,
Сціплай кветачкай прарасту,
Буду пахнуць табе за вярсту...

### Не пакідай

Смутак сэрца твайго — боль мой,
Раны ў жыцці тваім — боль мой,
Кожны крок ад мяне — боль мой...
Не пакідай мяне ў цемры небыцця
З душэўным болем, у руінах жыцця,
Не пакідай мяне, малю, не трэба,
Цябе сам Бог падараваў мне з роду —
Ты гарач сэрца й асалода мёду...
З табою быць — вялікая патрэба.

***

Сейся, сейся, новае насенне.
Прарастай імкліва, першацвет...
Гэй, музыкі, грайце жа вяселле! —
Прыгажосць зноў выратуе свет.

***

Стаіць на століку букет.
Які цудоўны яго цвет!
Тут і фіялкі ёсць, і ружы,
І браткі ёсць, і васількі.
Над ім лятаюць матылькі.
І пчолкі тут таксама кружаць.
Букет сабрала мая маці
І мне нясе, свайму дзіцяці:
— Паглянь, дачушка, як квяціста,
Якая прыгажосць навокал!
Не адарваць ад яе вока.
Букецік, як тваё дзяцінства...

ЮБІЛЕІ

# ЯНКУ САЛАМЕВІЧУ — 60

**Нашаму земляку, вядомаму беларускаму літаратуразнаўцу, перакладчыку і фалькларысту Янку Саламевічу 29 кастрычніка спаўняецца 60 гадоў з дня нараджэння.**



Янку Саламевіча ведаю даўно. Мне заўсёды цікава з ім пагутарыць, паспрачацца, даведацца пра жыццё пісьменнікаў, паслухаць сталічныя навіны. Лепш за ўсё гутарыцца ў Слоніме ці ў ціхай мінскай кавярні. Іван Уладзіміравіч ведае ўсё. Так-так, літаральна ўсё. Яго называюць энцыклапедыстам, бо ён, сапраўды, энцыклапедыст — і паводле занятку, і паводле прызвання.

Родную вёску Янкі Саламевіча Малую Кракотку Уладзімір Караткевіч некалі назваў самай прыгожай вёскай Беларусі. Нарадзіцца тут і каб не быць літаратарам — проста немагчыма. Сама вёска натхняла і натхняе на творчасць.

З мясцовай бібліятэкі, якая носіць імя Янкі Купалы, пачаўся шлях у літаратуру вясковага юнака. Спачатку закончыў філфак Белдзяржуніверсітэта, пасля аспірантуру. Абараніў кандыдацкую дысертацыю па творчасці Міхала Федароўскага — беларускага збіральніка фальклору. За ўдзел у стварэнні Беларускай савецкай энцыклапедыі ў 1976 годзе Янка Саламевіч атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі. Ён першы ў рэспубліцы зрабіў унікальны "Слоўнік беларускіх псеўданімаў", склаў арыгінальную кніжку "Беларускія загадкі", зборнікі выбраных твораў Г.Леўчыка, М.Арла, анталогію "Беларуская балада" і іншыя. Верыцца, што шмат яшчэ напішацца і зробіцца. Галоўнае, каб было здароўе і натхненне.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# СЛОНИМСКИХ "КУЛИБИНЫХ" РОСТЯТ НА ШОССЕЙНОЙ

У слонимской станции юных техников — юбилей. Ровно тридцать лет назад, в октябре 1968 года, она была создана на базе бывшего детского дома.



**Первый директор СЮТ Альфред ГОЛОДНЕВ**

За этот период времени какая только техника не была сделана умелыми руками талантливых ребят Слонима! Пожалуй, лучшие её экспонаты были продемонстрированы кружковцами в день праздника, который отмечался на прошлой неделе на Шоссейной улице. В частности, миниавтомобили, мимотоциклы, мопеды, картинги, авиамодели, которые отличались оригинальной конструкцией и необычным дизайном.

**Елена СИНЯК**



ФУТБОЛ *вышэйшая ліга*

# ПЕРАД ФІНІШАМ

**На мінулым тыдні адбыліся гульні перадапошняга тура чэмпіянату Беларусі па футболу. Дома пацярпела паражэнне "Маладзечна", якое саступіла мінскаму "Тарпеда" з лікам 1:0. Такім чынам, "Камунальнік" па-ранейшаму мае на ачко болей за маладзечанскую каманду.**

Толькі ў апошнім туры стане вядома, якая каманда, барысаўскае БАТЭ ці бабруйская "Белшына", заваюе ў чэмпіянаце другое месца. Але ўжо дакладна чацвёртым стаў віцебскі "Лакаматыў-96". Першым закончыў чэмпіянат наваполацкі "Нафтан-Дэвон", які заняў трынаццатае месца пасля нечаканай перамогі над "Гомелем". Да фінішу застаўся адзін тур.

**С.Е.**

## Вынікі астатніх матчаў тура:

**Маладзечна — Тарпеда — 0:1; Нёман — Белшына — 0:2; Дынама Мн. — Славія — 3:1; Шахцёр — Дынама Бр. — 1:3; Нафтан-Дэвон — Гомель — 2:0; Днепр-Трансмаш — Тарпеда-Кадзіна — 2:2; Лакаматыў-96 — БАТЭ — 0:0.**

ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА

### ПАСЛЯ 29-га ТУРА

| | | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Днепр-Трансмаш (Магілёў) | 27 | 21 | 4 | 2 | 55-13 | 67 |
| 2. | БАТЭ (Барысаў) | 27 | 17 | 4 | 6 | 49-25 | 55 |
| 3. | Белшына (Бабруйск) | 27 | 16 | 6 | 5 | 45-16 | 54 |
| 4. | Лакаматыў-96 (Віцебск) | 27 | 13 | 6 | 8 | 34-24 | 45 |
| 5. | Гомель | 27 | 11 | 9 | 7 | 32-27 | 42 |
| 6. | Славія (Мазыр) | 27 | 11 | 9 | 7 | 38-34 | 42 |
| 7. | Тарпеда (Мінск) | 27 | 11 | 8 | 8 | 38-22 | 41 |
| 8. | Дынама (Мінск) | 27 | 11 | 6 | 10 | 36-34 | 39 |
| 9. | Дынама (Брэст) | 27 | 12 | 2 | 13 | 40-39 | 38 |
| 10. | Нёман (Гродна) | 27 | 8 | 7 | 12 | 25-41 | 31 |
| 11. | Шахцёр (Салігорск) | 27 | 8 | 6 | 13 | 32-52 | 30 |
| 12. | Тарпеда-Кадзіна (Магілёў) | 27 | 7 | 8 | 12 | 30-39 | 29 |
| 13. | Нафтан-Дэвон (Наваполацк) | 28 | 7 | 4 | 17 | 33-47 | 25 |
| 14. | Камунальнік (Слонім) | 27 | 3 | 5 | 19 | 14-57 | 14 |
| 15. | Маладзечна | 27 | 3 | 4 | 20 | 20-51 | 13 |

СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98

## Лёс кубка вобласці вырашыцца ў Слоніме

**1 лістапада, у нядзелю, у 13 гадзін на стадыёне "Юнацтва" адбудзецца фінальны матч кубка вобласці па футболу сярод калектываў фізкультуры. За ганаровы трафей пазмагаюцца слонімскае "Дынама" і дзятлаўская "Славянка".**

У паўфінальнай гульні дынамаўцы гулялі з гродзенскім Сельгасінстытутам. Асноўны час закончыўся ўнічыю — 2:2 (галы ў слонімцаў забілі Данілевіч і Пагоцкі). Не вызначыў пераможцу і дадатковы час. У выніку ўсё вырашылі пенальці — з лікам 4:1 перамагло "Дынама" (два пенальці адбіў наш варатар Віктар Трусіла).

**Віктар САЛІТА**

КОНКУРС "ГС" И ООО "ТЕЛКОН"

# "Мы болеем за наш футбол!"

**Напоминаем, что на протяжении года "Газета Слонімская" и ООО "Телкон" проводят конкурс по итогам выступления команды "Коммунальник" в сезоне-98.**

Победители конкурса определяются по трем номинациям: первый приз достанется лучшему игроку (цветной телевизор иностранного производства), второй — лучшему бомбардиру (видеомагнитофон), третий — лучшему новичку (магнитола). Победителей определит комиссия, в которую войдут представители редакции "ГС" и ООО "Телкон". Также будут учитываться письма и отзывы болельщиков. Заполните купон и отошлите по адресу: 231800, Слоним-2, а/я 5 или звоните по телефону 2-14-39.

Перед последним туром чемпионата Беларуси на призы конкурса претендуют:

**лучший игрок** — Алексей Баль, Анатолий Дегиль, Игорь Киркиж — 4 очка, Алексей Адамицкий — 3, Евгений Савонь, Олег Савицкий, Георгий Татарашвили — по 1 очку;

**бомбардир** — Георгий Татарашвили (4 забитых мяча), Олег Савицкий (3), Анатолий Дегиль и Евгений Савонь (по 2), Андрей Диваков (1);

**лучший новичок** — Алексей Адамицкий (3 очка), Евгений Савонь и Андрей Диваков (по 2), Олег Киреня, Алексей Панковец и Андрей Толмач (по 1).

**КУПОН БОЛЕЛЬЩИКА**

**Конкурс "ГС" и ООО "Телкон"**



*Сезон 98*

**"Мы болеем за наш футбол!"**

**Лучший игрок "Коммунальника"**

**Бомбардир "Коммунальника"**

**Лучший новичок "Коммунальника"**

**Купон отсылайте по адресу: 231800, Слоним-2, а/я 5. Тел. 2-14-39.**



# Гороскоп от Тамары Глоба

29 октября – 4 ноября

**ОВЕН (21.3-20.4)**



В четверг не спешите решить свои дела. Стоит немного переждать. С воскресенья дела меняются к лучшему. Вы вступаете в новый долгосрочный период, который принесет вам последовательный успех. Он придет издалека. Хороший период для начала дела, торговли и переговоров — воскресенье, понедельник, вторник. Эти же дни удачны для дороги. Среда неудачна для путешествий.

**ТЕЛЕЦ (21.4-20.5)**



Поосторожнее в выяснении личных отношений. Ждите личного кризиса. У ваших партнеров будут проблемы. Возможно вам придется протянуть им руку помощи. Не самые удачные дни и для споров с начальством. Женщины могут стать коварными противниками. Планы изменятся. Вторник, среда со второй половины дня удачны для решения личных проблем, дел детей, творческой работы, спорта, развлечений.

**БЛИЗНЕЦЫ (21.5-21.6)**



Вы настроены на путешествия, однако параллельно ждите проблем на работе. Удачными для переговоров и выяснения отношений с партнерами можно считать воскресенье и понедельник. Ждите неприятного поворота событий в среду. Не стоит отправляться в дорогу в ночь на среду. Для путешествий подойдет понедельник. Уделите внимание материальным проблемам.

**РАК (22.6-22.7)**



В любви ждите странной развязки. Не доверяйте первым встречным. Ждите проблем, связанных с детьми. Уделите больше внимания их делам. Творческая работа не принесет удовлетворения. С ноября ждите хороших предложений по работе. Вечер вторника неудачен для путешествий и планов. Все вокруг меняется.

**ЛЕВ (23.7-23.8)**



Конец недели не самый благоприятный период для начала любого дела. Постарайтесь свести до минимума принятие важных решений в эти дни. Ждите перемен. Отдохните. Для путешествий и поездок период тоже не очень удачный. Воскресенье (середина дня), понедельник, вторник (первая половина дня) удачны для путешествий и решения личных дел. Проявите осторожность за рулем во вторник и среду. Берегитесь коварства женщин.

**ДЕВА (24.8-23.9)**



Вам необходимо более внимательно отнестись к своим контактам. Не принимайте важных решений до среды. Эти дни не очень удачны для договоров и начала нового дела. Путешествия могут быть удачны в среду. Избегайте споров с партнерами в пятницу, субботу. Не тратьте деньги в воскресенье.

**ВЕСЫ (24.9-23.10)**



Займитесь делами и больше внимания уделяйте финансовым документам. Работа займет ваши мысли и в выходные. Не принимайте поспешных решений. Для дороги период не очень подходящий. Отнеситесь более внимательно к семейным делам. В четверг, воскресенье и среду возможны потери и финансовые проблемы. Будьте осторожны за рулем во вторник.

**СКОРПИОН (24.10-22.11)**



Вам необходимо объединить свои усилия с любимыми и близкими людьми. Ситуация складывается неприятная. Посвятите больше времени детям, творчеству. Подойдите к проблемам с творческой позиции. Личные отношения проблематичны. Ждите переворота в любви и посвятите обязанностям все свое время. Дни споров — четверг, воскресенье, вторник.

**СТРЕЛЕЦ (23.11-21.12)**



В доме могут возникнуть проблемы. Договоры сорвутся. Неудачно идут дела торговли. Ждите финансовых проблем и споров на службе. Наиболее удачны для личных дел, дороги воскресенье, вторник до вечера, понедельник, вторник до вечера. В эти дни вы сможете быстро решить нахлынувшие проблемы.

**КОЗЕРОГ (22.12-20.1)**



Берегите деньги и не очень убивайтесь, если вдруг окажется, что вы не можете рассчитывать на помощь друзей. Конец недели стоит посвятить отдыху. Не заключайте долгосрочные контракты. Они могут претерпеть нежелательные изменения. Текущие дела, торговля, дела прибыли решатся быстро. В среду неплохой день для дороги. Ждите прибыли.

**ВОДОЛЕЙ (21.1-19.2)**



Представители власти окажут вам больше внимания, чем хотелось бы. Не вступайте в споры и конфликты с женщинами. Они могут иметь затяжные последствия. Для прибыли удачны дни с пятницы до середины дня вторника. Путешествия стоит предпринять в понедельник. Неудачны для дороги вторник и среда. Берегите деньги в эти дни и проявите внимание за рулем.

**РЫБЫ (20.2-20.3)**



Все меняется вокруг вас. Отложите поездку, намеченную на четверг. В пятницу, субботу со второй половины дня, воскресенье до середины дня постарайтесь решить как можно больше своих проблем и важных дел.